

# ЗЯЛЬВЯНАЧКА

Першая на Зэльвеншчыне
вучнёўска-бацькоўска-настаўніцкая газэта
сярэлняй школы №3

№1
ВЕРАСЕНЬ
2000 Г.

# З НОВЫМ НАВУЧАЛЬНЫМ ГОДАМ!

**Паважаныя чытачы !**

Дазвольце павіншаваць усіх вас з нагоды выхаду ў свет першага нумара нашай школьнай газэты.

Мы спадзяемся, што з яе дапамогай знойдзем новых сяброў і прыхільнікаў, якія шчыра цікавяцца жыццём і дзейнасцю нашай школы, яе вучнёўскага і педагагічнага калектыва. Мы таксама пастараемся стварыць умовы, каб кожны жадаючы змог і сам прыняць удзел у нашых паўсядзённых справах, унесці свой пасільны ўклад у нашу нялегкую справу па навучанню і выхаванню падрастаючага пакалення.

Цяпер хачу спыніцца коратка на нашых надзённых справах і нашых планах на будучае.

Школа наша звычайная, агульнаадукацыйная. Уведзена у эксплуатацый 1 верасня 1991 года. Праз год будзем святкаваць яе дзесяціґодззе. Займаюцца сёння у школе 565 вучняу ў 26 класа-камплектах. Працуе ў школе 55 педагогаў. З іх 43 настаўнікаў маюць вышэйшую адукацыю, 10 маюць вышэйшую, 30- першую і 3 - другую катэгорыю. 27 працуюць з дня адкрыцця школы. Усе гэта спрыяе стварэнню добрых умоў для набыцця вучнямі ведаў, якія павінны адпавядаць сучасным патрабаванням часу. Аналіз вынікаў удзелу вучняў школы ў раённых прадметных алімпіядах паказаў, што прызёрамі станавіліся вучні 21 настаўніка, што таксама сведчыць аб даволі роўным і маючым вялікі патэнцыял педагагічным калектыве.

Школа мае кампґютэрны клас, які абсталяваны сучаснымі IBM-сумяшчальнымі кампґютэрамі. З дапамогай спонсараў мы здолелі атрымаць магчымасць выйсці ў Інтэрнэт і адкрыць сваю старонку. Нашы вучні прымаюць актыўны ўдзел у распрацоўцы міжнародных дзіцячых



**М.К.Літвінчык**

праектаў, вядуць актыўную перапіску са сваімі равеснікамі з Аўстраліі, Эстоніі, Літвы, Польшчы, Злучаных Штатаў Амерыкі, Бельгіі, Францыі і іншых краін. Дзве нашыя вучаніцы з 9-га класа Цярэшка Марта і Гедрэвіч Оля за актыўны ўдзел у распрацоўцы дзіцячых праектаў былі прэміраваны заахвочваючымі пуцеўкамі ў маладзёжныя цэнтры ў Румынію і Венгрыю.

Мы маем добрую спартыўную базу з дзвюма спартыўнымі заламі, адзін з якіх мае памеры 24х42 м. На базе гэтай спартыўнай залы працуюць секцыі дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы па футболу і ручному мячу.

Пры зацвярджэнні вучэбных планаў мы абавязкова ўлічваем пажаданні вучняў і бацькоў па вывучэнню аддзельных прадметаў на павышаным і паглыбленым узроўні, факультатываў і курсаў па выбару, заняткаў па інтарэсах. З пачатковых класаў дзеці маюць магчымасць вывучаць англійскую мову, працуюць гурткі па вывучэнню польскай мовы.

Нашы вучні маюць магчымасць атрымаць спецыяльнасць у Дзярэчынскім вучэбна-вытворчым камбінаце па пяці спецыяльнасцях.

Мы маем цесныя сувязі з раённым рэабіліяцыйным цэнтрам, створаны добрыя ўмовы для дзяцей, якія займаюцца па інтэграваных праграмах навучання.

Вучні падрыхтоўчых класаў па жаданню бацькоў могуць наведваць групу падоўжанага дня.

Улічваючы тое, што на вучняў сярэдняга і старэйшага звяна выпадае вялікая вучэбная нагрузка, мы ствараем умовы, каб да гэтага перыяда вучні былі добра фізічна падрыхтаваныя, умелі кантраляваць сваё самаадчуванне, навучыліся правільна хадзіць, вытрымліваць асанку. З гэтай мэтай з 1 верасня бягучага года ў пачатковых класах за лік гадзін школьнага кампанента будзе выкладацца новы прадмет - рытміка.

Напярэдадні новага навучальнага года дазвольце павіншаваць вучняў, настаўнікаў, бацькоў і грамадскіх дзеячаў са святам 1 верасня – Днём ведаў і пажадаць усім поспехаў у нашай сумеснай дзейнасці па выхаванню падрастаючага пакалення!

**М.К.Літвінчык,**
**дырэктар школы**

## Падзяка

*Вучні і настаўнікі выказваюць шчырую падзяку за аказанне дапамогі ў падрыхтоўцы школы да новага навучальнага года:*

*- усім бацькам, якія ўнеслі свае грашовыя ахвяраванні;*

*- калектывам: МПМК – 148, ДЭУ – 118, Энэргастроя, горгаза, калгаса імя Леніна, райаграпрамтэхнікі, АТ РБП – 15.*

ЗЯЛЬВЯNАЧКА 2

# У новы навучальны 2000-2001 год!

**Перад новым навучальным годам нашыя карэспандэнты задалі некалькі пытанняў вучням, настаўнікам і бацькам аб іх настроі на пачатку навучальнага года, аб тым, чаго чакаюць, на што спадзяюцца.**



Заканчваецца 25 год маёй працы ў пачатковых класах. У маі я развіталася са сваімі чацвертакласнікамі, а 1 верасня ім на змену прыйдуць, нібы апалоханыя, мае новыя вучні і іх бацькі – невядомыя або малазнаёмыя мне людзі.

Яны прыйдуць з верай у вялікую сілу школы, настаўніка і са страхам перад невядомым.

Што скажу я табе, мой новы вучань, новы маленькі сябар?

Ты адзін у свеце, непаўторны і непадобны ні на кога. Я веру, што ты самае лепшае дзіця на свеце. Ты будзеш вучыцца пераможна, бо невук не можа быць шчаслівым сам і прычыняе шкоду іншым. Ты можаш нечага і не ведаць, але ты абавязкова павінен быць разумным чалавекам.

У школе ты навучышся не проста чытаць і пісаць. Галоўная твая задача – навучыцца думаць, гаварыць, даказваць, спрачацца, адстойваць сваю пазіцыю, праяўляць творчы пошук, паважаць думкі і годнасць субяседнікаў – сваіх сяброў па вучобе. Мне вельмі хочацца навучыць цябе разважаць, абагульняць, бачыць галоўнае ў кожнай частцы вывучаемага прадмета, каб працэс навучання, які лічыцца нялёгкай справай, стаў для цябе радасным і паспяховым.

Школа – гэта не толькі ўрокі. Гэта – дом радасці, дзе сустракаюцца добрыя сябры, гэта гульні, святы, экскурсіі. Гэта ніколі не змаўкаючы гаманлівы вулей, у якім веды здабываюцца толькі асабістай працай.

Ты – будучы грамадзянін незалежнай Беларусі. Я дапамагу табе зразумець законы прыроды і грамадства, разабрацца ў мінулым і сучасным, каб знайсці сваё месца ў будучым.

Я веру ў тое, што я лепшы настаўнік на свеце. Я дапамагу табе вучыцца, атрымліваць веды на ўроку, вучыцца лёгка і цікава. А цікава і лёгка тады, калі ўсё зразумела.

І дапамагаць мне ў гэтым будуць тры веры:

1. Вера ў цябе (у майго вучня)
2. Вера ў сябе (настаўніка-прафесіянала)
3. Вера ў навуку.

Паважаныя бацькі! Мы разам у адказе за будучыню вашых дзяцей. Вас трывожыць іх лёс, бо жывём мы ў вельмі складаны час. Мая задача, як настаўніка, захаваць у кожнага дзіцяці жывую душу чалавечую, не даць збіднець ёй у лабірынтах рацыяналізму, дапамагчы не разгубіцца ў кругавароце паўсядзённых спраў і праблем, стаць асобай, чалавекам, захаваўшы непаўторную індывідуальнасць.

Любіце сваіх дзяцей і прымайце іх такімі, якія яны ёсць, без папрокаў і злосці. Імкніцеся дапамагчы ім убачыць свае вартасці і недахопы, накіраваць іх на правільны шлях, а галоўнае – стаўцеся да іх як да Асобы! Прадастаўце ім самастойнасць і свабоду для творчасці, каб дапамагчы пазнаць свет і праявіць сябе, адчуць сябе здольнымі рабіць нешта важнае для ўсіх, каб яны змаглі жыць заўтра свядомым і адказным жыццём.

Дзяцінства – паўнацэнны этап у жыцці чалавека, самыя важныя гады, таму акружыце сваіх дзяцей душэўнай мяккасцю, дабрынёй, клопатам, станьце ім вялікімі сябрамі.

**І. Р. Хлапоніна, настаўніца пачатковых класаў**



***- Як ты лічыш, навошта людзі ходзяць у школу?***

-Каб усё ведаць, шмат чаго ўмець, быць разумнымі. У школе можна знайсці новых сяброў.

***- Якой ты ўяўляеш сабе школу?***

- А я бачыла сваю школу, яна побач з нашым домам. Школа вялікая, шматпавярховая. Дзеці расказвалі, што ў школе вялікая спартыўная зала.

***- А якой табе бачыцца твая першая настаўніца?***

- Добрай, прыгожай, разумнай, справядлівай.

***- Што гэта значыць – справядлівай?***

- Гэта калі да ўсіх дзяцей адносяцца аднолькава.

***- У класе з табой будуць вучыцца і дзяўчынкі, і хлопчыкі. З кім бы ты хацела сядзець за адной партай?***

- З хлопчыкам, вядома. Ён можа абараніць, а калі прынясе што-небудзь смачнае – пачастуе.

***- Значыць у школу ісці хочацца?***

- А як жа ж, у садку мы ўжо старэйшую групу скончылі, усё вывучылі.

**Ламека Дзіяна, вучаніца надрыхтоўчага класа**



Верасень...

Пара трывог і хваляванняў для дзяцей і іх бацькоў, час радасных чаканняў і першых выпрабаванняў.

Чатыры гады назад пачалося школьнае жыццё і для мяне. З трывогай глядзеў я на сваю першую настаўніцу Хлапоніну Ірыну Раманаўну. Якая яна? Добрая ці злосная? Вельмі строгая ці не? Цяпер я ведаю: яна самая лепшая. Радасцю была вучоба ў нашым класе. Любоў і разуменне бачылі мы ў вачах сваёй настаўніцы. Не ўсё нам давалася лёгка: былі памылкі, часам лянота. Але ніколі я не чуў ад Ірыны Раманаўны: "Ты не ўмееш, нічога не ведаеш". Наадварот, заўсёды толькі: "Ты зможаш, толькі пастарайся". Ну, ці ж можна было пакрыўдзіць такую настаўніцу і ці можна было яе не любіць?

Кожны дзень мы адкрываем для сябе што-небудзь новае і цікавае: конкурсы, віктарыны, вечары. А колькі было паходаў, дзе мы не толькі знаёміліся з цікавымі мясцінамі, але і лепш пазнавалі адзін аднаго, вучыліся сябраваць.

Праляцела лета, на парозе яшчэ адзін верасень. Другі вучань будзе глядзець на Ірыну Раманаўну і думаць: "Якая яна настаўніца: добрая ці не?"

А нас, яе былы 4 "Б", чакаюць сустрэчы з новымі настаўнікамі. Невядомае заўсёды маніць і трошкі палохае.

Хочацца верыць, што нас чакае радасны свет адкрыццяў, новых сустрэч, дабра і разумення. У кожнага з нас ёсць свае захапленні: спорт, танцы, маляванне, камп'ютар, ігра на сцэне. Мне хочацца, каб мы знайшлі ў школе кола такіх жа цікавых людзей, з якімі з карысцю будзем праводзіць свой вольны час.

**Панасік Кірыл, вучань 5 класа**



Чалавек жыве і прывязваецца нябачнымі ніцямі да людзей, якія побач з ім. Надыходзіць час разлукі, ніткі нацягваюцца і рвуцца, як струны скрыпкі, выдаючы тужлівыя гукі. І кожны раз, калі ніці абрываюцца каля сэрца, чалавек адчувае самы востры боль. Якраз такі боль перажываю і я. Мае выхаванцы – выпускнікі. Першыя выпускнікі за 15 год педагагічнай працы. Таму вельмі перажываю, вельмі хвалююся.

Але наперадзе яшчэ адзін, праўда апошні, навучальны год. Хочацца, каб быў ён асабліва плённым, напружаным і адначасова радасным. Пастарайцеся выкарыстаць гэты час для работы над сабой. Памятайце, што ўсё ў вашых руках. Толькі ад вас будзе залежыць, якім будзе ваша далейшае жыццё. Няхай яно не будзе манатонным і шэрым. Але вельмі не хачу, каб яно блішчала штучным ці чужым бляскам. Жадаю, каб у вас былі якіясьці дасягненні, таму што ўсе любяць перамагаць. А самая вялікая перамога – перамога над сабой.

Спадзяюся, што гэты навучальны год будзе адказным не толькі для вас, але і для вашых бацькоў. Хочацца бачыць іх у школе як мага часцей і не толькі госцем, але і актыўным саўдзельнікам усяго, што тут адбываецца. Лічу, што калі ў нас пастаянна будзе дзейнічаць трохвугольнік дзеці – бацькі – настаўнікі, мы дасягнем не толькі ўсіх пастаўленых мэт, але і дапаможам нашым дзецям пазбегнуць многіх жыццёвых памылак.

У добры шлях!

**Шалястовіч Н. Ф., класны кіраўнік 11 "А" класа**



Вось і падыходзіць да канца апошні месяц летняга адпачынку дзяцей. Зусім нядаўна быў чэрвень, калі выпускныя класы здавалі экзамены, але лета ёсць лета! Кожны з дзяцей займаўся сваімі справамі. Другі месяц не парадаваў нікога сваім надвор'ем. Толькі справа ў тым, хто як можа, той так і адпачывае.

З задавальненнем дзеткі раз'ехаліся па розных вёсачках, каб і адпачыць, і папрацаваць. Хтосьці атрымаў доўгачаканыя пуцёўкі ў лагеры "Блакітная хваля", "Лясная казка", у санаторыі. Але, здаецца, не кепска правялі канікулы тыя, хто з лепшымі сябрамі арганізаваў свой адпачынак дома. Гэта вулічны футбол, катанне на веласіпедах, роліках, сумесныя паходы па ягады, грыбы, лекавыя расліны.

Для кожнай маці сваё дзіця самае лепшае, добрае, прыгожае ў свеце. Трэба клапаціцца аб тым, каб усё самае добрае і разумнае выхоўваць у іх з маленства. Галоўнае тое, каб нашы дзеці раслі добразычлівымі, працавітымі, шчырымі, добрасумленнымі людзьмі, не абыякавымі да навакольнага асяроддзя, каб не выраслі эгаістамі ў адносінах да родных, блізкіх, сяброў.

Згадзіцеся са мною, што мы часта не разумеем нашых дзяцей, не можам і не хочам бачыць, што з імі адбываецца.Іх трэба падтрымаць у гэтую хвіліну добрым словам, пажартаваць з імі, звярнуцца да іх самымі лепшымі пяшчотнымі словамі, паставіць сябе на іх месца. Як мы ім дапаможам у дзяцінстве, так і яны зробяць для нас у старасці. Падумайце, дарагія бацькі, аб гэтым!

У мяне самая звычайная сям'я, звычайныя дзеці. Толькі яны ў мяне больш самастойныя. Я ведаю, што мне ніколі не будзе сорамна за іх перад людзьмі. Ім не займаць душэўнасці, цеплыні, шчырасці, добразычлівасці. Мы вельмі любім разам і працаваць, і адпачываць. Сямейныя святы сталі традыцыяй: гэта віншаванне сваіх родных і блізкіх. У кожнага з іх свае абавязкі ў сям'і. Прыемна бачыць іх задаволеныя твары, калі яны бачаць вынікі сваёй працы: прыбрана хата, вымыта бялізна, прапалоты агарод, накормлена жывёла. Самае галоўнае тут – матуліна падзяка за ўсё зробленае.

У маіх дзяцей шмат сяброў і знаёмых не толькі ў Зэльве, але і з іншых гарадоў нашай рэспублікі. Выступаючы ў розных абласных і рэспубліканскіх музычных конкурсах і фестывалях, яны пасябравалі з імі. Перапісваюцца, звоняць адзін аднаму, віншуюць са святам, днём нараджэння. Але больш за ўсё яны радуюцца, калі сустракаюцца ў музычнай гасцёўні.

Некалькі парад бацькам:

- старайцеся стаць першым сябрам для вашых дзяцей;
- дакраніцеся пяшчотай да глыбіні дзіцячай душы;
- не ганьбуйце іх пачуццё гонару;
- больш бацькоўскай увагі.

Вашы дзеці гэтага заслугоўваюць.

Давайце сеяць добрае, разумнае, вечнае ў сваіх дзецях. Дапаможам нашым паважаным настаўнікам дабіцца такіх вынікаў у выхаванні і навучанні нашых дзяцей.

Дазвольце, паважаныя настаўнікі, павіншаваць вас з наступаючым новым навучальным годам, пажадаць усяго самага добрага: здароўя, поспехаў у нялёгкай працы, а галоўнае – разумных і граматных вучняў.

Бацькам – быць уважлівымі, церпялівымі і пяшчотнымі ў адносінах да дзяцей і настаўнікаў.

А вам, дзеці, хочацца параіць: станьце самымі лепшымі з лепшых. Ведайце, гэта зусім не цяжка.

**Рыбарчык Вера Яўгеньеўна,**
**выхавацель 2-й малодшай групы**
**д/с № 2 "Церамок".**



Школа – гэта казачны дом навук і ведаў, у якім мы пазналі навакольны свет і самаго сябе. Крок за крокам мы праходзім усе цяжкасці і перашкоды, якія паўстаюць на нашым жыццёвым шляху, але з упэўненасцю я магу сказаць, што палову з іх мы вырашаем з дапамогай нашых любых настаўнікаў.

Я амаль ужо вучаніца 11-га класа і, магчыма, гэта дае мне права гаварыць, што школа – гэта мой другі дом. Школа вабіць мяне не толькі сваімі ведамі, добразычлівымі настаўнікамі, але і цяплом сваіх класаў, у якіх мы знаходзім першых сапраўдных сяброў і пачынаем разумець адносіны паміж юнаком і дзяўчынай. Неаднойчы, заходзячы ў гэты цудоўны будынак, я адчувала сябе ў вялізнай сям'і, у якой заўсёды пануе павага і паразуменне.

Школьныя гады – цудоўныя гады, за якія я хачу падзякаваць, менавіта, сваёй роднай школе № 3 г.п. Зэльва, сваім добрым настаўнікам, а таксама свайму класнаму калектыву, які склаўся за гэты час.

Напярэдадні новага навучальнага года хачу пажадаць усім вучням нашай школы, асабліва свайго класа, добрага настрою, выдатных адзнак у вывучэнні прадметаў, шмат цікавых сустрэч. Няхай усе вашыя мары здзейсняцца!

**Плаўская Таццяна,**
**вучаніца 11 "Б" класа**

# ЯК Я СТАЎ СТУДЭНТАМ

Кожны вучань нашай школы марыць атрымаць добрую прафесію, стаць студэнтам. Гэтую мару ажыццявіў выпускнік школы Сідорка Сяргей. Ён стаў студэнтам Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта і будзе займацца на факультэце міжнародных эканамічных адносін (бюджэтная форма навучання).

У Сяргея мы ўзялі невялічкае інтэрв'ю.

***- Які настрой у будучага студэнта?***

- Яшчэ мне цяжка ўявіць, што ўсё закончылася, не трэба больш садзіцца за падручнікі і з'явілася шмат вольнага часу. Студэнтам сябе не адчуваю, але жыву ў напружаным чаканні новых змен у сваім жыцці.

***- Падзяліся з нашымі чытачамі сваімі ўражаннямі ад уступных экзаменаў.***

- На факультэт міжнародных эканамічных адносін нас залічана 15 чалавек. Лічу, што мне вельмі пашанцавала, так як усе тры экзамена я здаваў пісьмова: матэматыка, англійская і беларуская мова. На адзнаку, якую я атрымліваў, не ўплывала сімпатыя ці антыпатыя да мяне экзаменатараў.

Прайшоўшы праз усе выпрабаванні, упэўнены, што перамогу атрымлівае той, хто мае больш трывалыя веды. Будучым абітурыентам неабходна не толькі спадзявацца на ўдачу, але і на свой розум і веды. Патрэбна яшчэ вытрымка.

***- Які экзамен быў для цябе самым запамінальным?***

- Магчыма, матэматыка. Гэты экзамен быў першым. Атрымаўшы ўмовы кантрольных задач, я быў упэўнены ў добрым выніку. І якое было маё расчараванне, калі я атрымаў адзнаку 4,5. Рашаючы першую задачу, прапусціў адну з лічб.

***- Як ты лічыш, калі трэба пачынаць падрыхтоўку да ўступных экзаменаў?***

- Чым раней, тым лепш. Ужо ў 9 – 10 класах вызначыць будучую сваю прафесію і тыя прадметы, па якіх праводзяцца экзамены. Для падрыхтоўкі ёсць шмат магчымасцей. Я займаўся не толькі дадаткова з настаўнікамі, але таксама вучыўся на завочных курсах, удзельнічаў у раённых алімпіядах па матэматыцы і англійскай мове. Адчуў атмасферу ўступных экзаменаў, калі праходзіў у сакавіку-красавіку тэсціраванне ў Полацкім і Гродзенскім дзяржаўных універсітэтах.

***- Як ты адносішся да тэсціравання?***



- За такой формай уступных экзаменаў будучае. Тэсціраванне дае больш аб'ектыўную ацэнку ведаў вучняў. У час тэсціравання ў Гродзенскім універсітэце па матэматыцы я атрымаў адзнаку "4". Лічу гэта добрым вынікам, так як не проста рашыць 20 задач за 2 гадзіны. У Полацкім універсітэце мне не хапіла палову бала, каб паступіць на абраную спецыяльнасць. Усе гэтыя выпрабаванні, што я прайшоў, дапамаглі мне сабрацца ў час уступных экзаменаў.

***- Сяргей, што ты жадаеш будучым абітурыентам?***

- Не растрачваць час за дарма. Працаваць. Быць упэўненым у перамозе. Не губляцца. Ведайце, што той хто мае веды, той і перамагае.

Яшчэ хачу сказаць вялікае дзякуй настаўнікам нашай школы. Яны мне далі веды і я адчуваў сябе ўпэўнена, змагаючыся за права стаць студэнтам разам з выпускнікамі ліцэяў і гімназій.

Зяльвянчака 4

# ВЫНІКІ І ВІНШАВАННІ



*У мінулым навучальным годзе школу закончыла 49 вучняў, з іх 14 вучняў атрымалі медалі:*

***7 залатых***
*(Сідорка Сяргей, Шчамялёў Аляксандр, Ельяшевіч Таццяна, Лазко Іна, Серада Вікторыя, Ярыгіна Алена, Скіба Галіна),*

***7 сярэбраных:***
*Хворык Юрый, Жук Наталля, Кананoвіч Вікторыя, Белякова Вольга, Ганжына Дар`я, Ламека Святлана, Мазоль Наталля.*

***У час працы над газетай (на 15 жніўня) мы сабралі папярэднія звесткі аб працаўладкаванні нашых выпускнікоў:*** *16 вучняў паступіла ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, 10 - у сярэднія спецыяльныя ўстановы.*

***Мы віншуем нашых выпускнікоў з паступленнем, жадаем ім поспехаў на шляху да сваёй будучай прафесіі.***

# З ЮБІЛЕЕМ

Шчыра віншуем:
***Пачабыт Святлану Сяргееўну,***
***Нагула Жану Генадзьеўну,***
***Ган Алену Міхайлаўну,***
***Серык Таццяну Канстанцінаўну***
са знамянальнай датай у іх жыцці – з юбілеем. Жадаем ім моцнага здароўя, дабрабыту, цяплыні, шчасця і радасці!

# ВЯСЁЛЫ ПЕРАПЫНАК

***З беларускага школьнага фальклору***



Бацька: Калі ты выправіш свае двойкі?

Сын: Не ведаю. Мабыць не выпраўлю, таму што наша настаўніца ніколі не пакідае журнал у класе.

***

- Бацька, ты можаш пісаць у цемры?
- Думаю, што змагу.
- Тады патушы свет і падпішы мой дзённік.

***



Настаўніца пытаецца ў вучня:

- Ты чаму прыйшоў у школу адзін? Яж табе казала, без бацькі не прыходзіць.
- Я не маленькі, - адказвае вучань, - і без бацькі дарогу ведаю.

***

Настаўнік:
- Чаму вострыя нажніцы рэжуць лепей, чым тупыя?

Вучань:
- Таму што малекулы ў іх лепш завостраныя.

***

Настаўнік:
- Ты рашыў задачу?

Вучань:
- Рашыў.

Настаўнік:
- Колькі гледачоў было ў зале?

Вучань:
- 63,5 гледача.



# Ад рэдакцыі

Паважаныя вучні, бацькі, настаўнікі! Гэта была наша першая спроба выдання газэты, прысвечанай жыццю школы №3 г.п. Зэльва.

Калі ласка, далучайцеся да выпуску наступных нумароў газэты «Зяльвянчака». Вашыя прапановы, парады, заўвагі дапамогуць зрабіць нашу газэту больш насычанай. Мы зможам разам падумаць, як нам лепш разнастаіць працэс навучання і выхавання.


Ідэя і назва: Юры Качук
Заснавальніца: Лілія Качук
Рэдактар: Наталля Рагоўская
Адказны за выпуск: Сяргей Печарыца

Перадрук матэрыялаў толькі з дазволу рэдакцыі газэты. Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 паасобнікаў.



Наш адрас: 231930, г.п. Зэльва, вул. Булака, 6 СШ №3.



Дабрачынна надрукавана Гарадзенскім абласным аб"яднаннем «Ратуша» пры падтрымцы фонда «Альянс Каунтэрпарт», Камісіі па Дэмакратыі Амбасады ЗША на Беларусі і Нацыянальнага Фонду на карысць дэмакратыі (ЗША).